наша
# свабода

№43(130) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

20 КРАСАВІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Яшчурнае мяса для ўсходняга саюзніка?

*Беларусь чарговы раз гатовая падставіць свайго галоўнага партнёра на Усходзе. Паводле інфармацыі з неафіцыйных крыніцаў, Беларусь плануе набыць у Чэхіі вялікую партыю ялавічыны.*



Фота Ул.ШЛАПАКА

Здавалася б, што кепскага? Тым болей, што, паводле тых жа крыніцаў, здзелка надта выгадная з-за вельмі нізкіх коштаў – бо чэшская дзяржава фінансава падтрымлівае сельскую гаспадарку. Паведамляецца таксама, што Беларусі будзе адкрыты крэдыт – тады не спатрэбіцца адразу плаціць грошы.

Але справа ў тым, што Чэхія ўваходзіць у спіс краінаў, дзе цяпер пануе эпідэмія яшчуру. Таму мяса, увезенае з гэтай краіны, можа быць небяспечным для нацыянальнага пагалоўя жывёлы. Вірус яшчуру распаўсюджваецца вельмі хутка, у тым ліку і пры «дапамозе» чалавека. Самому чалавеку няма ад яшчуру ніякай шкоды — ён проста становіцца вірусаносьбітам. Але для жывёлагадоўлі вірус яшчуру прадстаўляе вялікую праблему – каровы, свінні, авечкі ды іншая жывёла пачынаюць хварэць і здыхаюць.

Беларусь прыняла вельмі жорсткія захады, каб абараніцца ад эпідэміі яшчуру. Гэтыя захады пакуль застаюцца плёнымі – дагэтуль ніводная жывёліна не захварэла.

Аднак, па нашай інфармацыі, чэшскае мяса будзе набывацца зусім не для беларускіх патрэбаў; плануецца, што яно паедзе простым шляхам у Расію. Пад выглядам беларускага, натуральна. Такім чынам, Беларусь здолее зэканоміць немалыя сродкі на разліках за дарагое расійскае паліва.

Днямі чэшскі сенатар, старшыня замежнага камітэта Міхал Жантоўскі, выступіў супраць экспарту чэшскага мяса ў Беларусь. Пра гэта паведаміла радыё «Свабода». Сенатар пратэстуе з той прычыны, што паколькі ялавічына датавалася з бюджэту Чэшскай дзяржавы, то атрымліваецца, што гэтыя датацыі паступаюць беларускім уладам. «Свабода» цытуе выказванне М.Жантоўскага, надрукаванае ў штодзённіку *Lidove Noviny*: «Лічу гэта ўскосным спосабам датацыі недэмакратычнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі».

*Lidove Noviny* паведамляюць таксама, што Чэхія пачала экспартаваць ялавічыну, бо рэзка ўпаў попыт на яе на ўнутраным рынку – з-за панікі, якая ўзнікла пасля паведамленняў пра каровіна шаленства і яшчур. Па звестках Міхала Жантоўскага, памер экспарту Чэхіяй ялавічыны склаў ужо пяць тысяч тон. Харчаванне пастаўляецца з адмысловага фонду рынкавага рэгулявання, які быў створаны, каб набываць у фермераў лішкі сельскагаспадарчай вытворчасці.

Карэспандэнт выдання звязаўся з міністэрствам сельскай гаспадаркі Чэхіі з пытаннем, у якія менавіта краіны экспартуецца ялавічына. Але атрымаў адмову. Прэс-сакратар міністэрства Павел Коварж заявіў, што ягонаму ведамству нявыгадна раскрываць свае каналы пастаўкі. Канкурэнты з Еўрапейскага Саюза, дзе лішак ялавічыны яшчэ большы, чым у Чэхіі, могуць тады «перахапіць кліента» і прапанаваць больш выгадныя цэны. Той жа думкі прытрымліваецца і міністр сельскай гаспадаркі Ян Фенцл. Таму даведацца, ці ёсць у спісе краін-пакупнікоў Беларусь, не ўдалося. П.Коварж заявіў, што не мае інфармацыі пра пастаўкі ў Беларусь якой-небудзь сельскагаспадарчай прадукцыі, але падкрэсліў, што вытворцы сельгаспрадукцыі ягонай краіны гатовыя да супрацоўніцтва з беларусамі.

Афіцыйныя крыніцы ў Беларусі таксама абвяргаюць магчымасць закупкі нашай краінай ялавічыны ў Чэхіі. У аддзеле маркетынгу і рэалізацыі прадукцыі міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання нам паведамілі, што інфармацыі пра магчымую здзелку з Чэхіяй не маюць. Ды і навошта набываць ялавічыну за мяжой, калі наша краіна сама здольная вырабіць дастатковую колькасць мяса, выказала непаразуменне супрацоўніца міністэрства Галіна Рухля. Міністэрства замежных справаў Беларусі таксама аказалася не ў курсе праблемы.

Тым не менш, праблема застаецца. 18 красавіка Аб'яднаная грамадзянская партыя заявіла пра магчымую небяспеку імпарту ў Беларусь ялавічыны з Еўропы па танных коштах. Партыя паведамляе, што вядуцца перамовы беларускіх уладаў адразу з некалькімі еўрапейскімі дзяржавамі аб буйных пастаўках ялавічыны па дэмпінгавых цэнах. Сярод гэтых краінаў АГП таксама ўзгадвае Чэхію і даводзіць, што ўжо нават падпісанае пагадненне аб пастаўках.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

## Воўк застаецца ў Варшаве

Учора адбылося паседжанне Варшаўскага акруговага суда па справе экстрадыцыі Леаніда Воўка.

Адвакаты Воўка прадставілі суду ізраільскі пашпарт свайго кліента і давялі, што паміж Польшчай і Беларуссю існуе дамова аб выдачы толькі сваіх грамадзянаў, па-другое, спаслаліся на тое, што існуюць значныя несупадзенні ў абвінавачваннях, што былі ў лісце на арышт і дакументах, што прадставіла пракуратура Беларусі. Старшыня суда Марэк Сабковіч палічыў довады абароны пераканаўчымі і адклаў паседжанне на няпэўны тэрмін: пакуль Беларуская пракуратура не выправіць недакладнасці.

Заўтра ў Беластоку адбудзецца суд па экстрадыцыі сп. Жукаўца, там жа пройдзе пікет сябраў Згуртавання беларускіх палітычных уцекачоў у яго падтрымку. 24 красавіка ў Варшаве пройдзе суд зноў жа па экстрадыцыі нашага земляка Валерыя Кругавога, які запыдзяецца атрымаць палітычны прытулак у Польшчы.

Складаецца ўражанне, што польскія суды толькі і працуюць з нашымі грамадзянамі, якія паўцякалі ад Лукашэнкі.

Людміла ГУЛЯКЕВІЧ

## Мінскія школьнікі ідуць у лідэрах

Як паведаміў начальнік упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі міністэрства адукацыі Беларусі Мікалай Фяськоў, на сёлетніх рэспубліканскіх алімпіядах па розных навучальных дысцыплінах найбольш здатнымі сябе паказалі школьнікі са сталіцы. Далей ідуць Віцебшчына, Магілёўшчына і Гомельшчына. У ліпені-верасні пераможцы возьмуць удзел у міжнародных алімпіядах.

## Сайт энцыклапедыяў

У інтэрнэце з'явіўся электронны варыянт Вялікай савецкай энцыклапедыі, энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона, Малой медычнай энцыклапедыі і іншых. Цяпер тыя, хто не мае гэтых энцыклапедычных збораў дома, могуць чытаць яго ў сусветным сеціве па адрасе www.rubricon.ru. Прычым усе матэрыялы тут можна праглядаць абсалютна задарма.

## Рэстаўрацыя Брэсцкай крэпасці зацягнецца

Са словаў дырэктара мемарыяла «Брэсцкая крэпасць-герой» Валерыя Губарэнкі, большасць краінаў СНД ухіляецца ад фінансавання сумеснай рэстаўрацыі комплексу. Пакуль што свае ўнёскі зрабілі Украіна і Малдова – па 175 тысячаў долараў, а таксама Расія і сама Беларусь – 300 тысячаў долараў. Таму рэстаўрацыя крэпасці завяршыцца няхутка.

**Наступны нумар газеты выйдзе ў пятніцу, 27 красавіка**

## Прамыванне мазгоў

*Прамыя трансляцыі па Беларускім тэлебачанні з удзелам Аляксандра Лукашэнкі штотыдзень ужо сталі «добрай традыцыяй». Выкарыстоўваецца любая нагода для таго, каб засвяціцца на экране яшчэ раз.*

Учора адбылася селектарная нарада, прысвечаная ходу вясенне-палявых работ, дзе таксама ззяў беларускі кіраўнік.

На нарадзе быў сабраны ўвесь «партгасактыў» – чыноўнікі з прэзідэнцкай адміністрацыі, Савета міністраў, кіраўнікі ведамстваў, канцэрнаў і прадпрыемстваў, банкіры... Яны былі ўзмоцненыя сілавым блокам у поўным складзе – на нарадзе прысутнічалі міністр абароны Леанід Мальцаў, міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў, старшыня КДБ Леанід Ерын, генеральны пракурор Віктар Шэйман і дзяржсакратар Савета бяспекі Урал Латыпаў.

Заканчэнне на стар.3

## Войсковой группировкой будут командовать двое

### Беларусь и Россия объединяют военную мощь

О предстоящем визите российского министра обороны стало известно еще 3 апреля, когда заседал в Москве Высший госсовет российско-белорусского союза. Однако, по ходу пребывания Сергея Иванова в Минске, вносились неоднократные коррективы. Это вносило сложности в работу пресс-службы министерства обороны Беларуси, с которыми она в основном справилась. Не в пример аналогичной службе А.Лукашенко, которая не допускает к «телу» оппозиционных журналистов. Вокруг С.Иванова отсутствовала нервозность. Как чиновников, так и охраны.

Встреча российского гостя с руководителем Беларуси состоялась на несколько часов раньше запланированного времени. А.Лукашенко неожиданно быстро вернулся из Екатеринбурга. По словам С.Иванова, в ходе долгой беседы он, по просьбе А.Лукашенко, обстоятельно рассказал ему о планах реформирования российской армии. Очевидно, что такой интерес вызывался и тем обстоятельством, что А.Лукашенко продолжает находиться в качестве председателя Высшего госсовета российско-белорусского союза, который упорно называют государством. Как известно, сейчас оборонные ведомства Беларуси и России пытаются выработать военную доктрину для этого, по сути виртуального государства. И чтобы там ни говорили об экономическом стержне нового образования, реальным стержнем российско-белорусской интеграции является военный стержень. Понятно, что ответом на расширение *NATO* на Восток явилось провозглашение планов создания совместной российско-белорусской воинской группировки. По словам С.Иванова, в нее будут включены белорусские и российские части, которые дислоцируются в Калининградской и Московской областях. И если мотивы создания, в случае возникновения внешней угрозы, воинской группировки понятны, то остается неясным, кто ею будет командовать.



Согласно тем документам, которые расписывали довольно подробно механизм создания и руководства этой группировкой, как и положено в любой военной структуре, сохранялся принцип единоначалия. Так вот, в совместной обороне, документы по которой, кстати, уже ратифицированы парламентами двух государств, в так называемый угрожающий период Высший госсовет Союза РФ и РБ преобразуется в Совет обороны. А его председатель становится главнокомандующим этой самой группировкой. То есть формально, на сегодняшний день, таковым считаться может А.Лукашенко. Именно считаться, так как на последнем заседании Высшего совета его председатель практически таковым не являлся.

Окончание на стр.3

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1360

ПАЛІТЫКА

# Сесія *NATO* у Вільні

27-31 траўня ў Вільні збяруцца прадстаўнікі 19 краінаў - сябраў Паўночнаатлантычнага альянсу і 17 асацыяваных членаў *NATO*. На гэтую сесію прыедзе і Генеральны сакратар альянсу Джордж Робертсан. Літоўская сталіца пераняла эстафету сесіі, што для яе з'яўляецца дужа важным паказчыкам прыняцця ў еўрапейскае лона.

Беларусь жа пакуль знаходзіцца па-за Еўропай (маецца на ўвазе ў гэтым выпадку па-за ПА *NATO*) з-за лістападаўскага рэферэндуму 1996 года. Дагэтуль на сесіях Паўночнаатлантычнага блока ў якасці асацыяванага члена прысутнічала дэлегацыя Вярхоўнага Савета на чале са старшынём Мечыславам Грыбам. Пасля антыканстытуцыйнага плебісцыту Беларусь страціла статус з правам дарадчага голаса, і М.Грыб ездзіў на штогадовыя сесіі толькі ў якасці наглядальніка, у 2000 годзе да яго далучыўся і Анатоль Лябедзька. Нездарма беларускі рэжым – у спробах прарыву ў цывілізаваны свет – паспрабаваў падаць як прызнанне незаконнага парламента сакавіцкі прыезд у Мінск місіі ПА *NATO* для звычайнага маніторынгу сітуацыі.

Чатырохдзённая праграма сесіі прадугледжвае паседжанні палітычных групаў, пленарнае паседжанне і закрыццё сесіі. Выходзячы з таго, што дагэтуль Беларусь у ПА *NATO* прадстаўлялі М.Грыб і А.Лябедзька, а сабраная з парэштак разагнанага ВС першая палата ўвогуле не была прадстаўленая ў названай міжнароднай структуры, то, верагодна, і ў Вільнюс паедуць першыя. Хаця, як сцвярджае адзін з сябраў дэлегацыі А.Лябедзька, афіцыйныя запрашэнні пакуль не прысланыя.

**Рыгор БУЯН**

# Беларусы зноў едуць у Страсбург

З 23 красавіка ў Страсбургу пачынаецца чарговая сесія Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая працягнецца з тыдзень. На ёй Беларусь будуць прадстаўляць як апазіцыя ў асобе Вярхоўнага Савета 13-га склікання, так і ўрадавы бок з палаты прадстаўнікоў. На жаль, прадстаўніцтва будзе няроўным: палатнікі паедуць за ўрадавы кошт, а ВС і КРДС, якія не маюць уласных сродкаў, мусяць да крайнасці скарачаць сваю дэлегацыю.

На думку віцэ-спікера ВС Анатоля Лябедзькі, «беларускага пытання» на сесіі не будзе; аднак апазіцыя збіраецца максімальна эфектыўна скарыстаць два дні дзеля найшырэйшых сустрэчаў на еўрапейскім узроўні. Так, дэлегацыя ВС мае намер спаткацца з кіраўнікамі ПА СЕ, са старшынямі Пастаяннага камітэта, пастаяннай і юрыдычнай камісіяў.

**Рыгор БУЯН**

МАРАЛЬ

# Чарговы іск да БТшніка

Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, праваабаронца Валерый Шчукін падаў у сталічную пракуратуру заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы супраць вядучага праграмы «Правы чалавека: погляд у свет» на Беларускім тэлебачанні Яўгена Новікава – за распальванне расавай, нацыянальнай і рэлігійнай варожасці.

У заяве гаворыцца, што 16 красавіка Я.Новікаў у сваёй праграме «заклікаў да распальвання нацыянальнай варожасці», бо «знеслаўляў вернікаў рэлігійных меншасцяў».

В.Шчукін робіць выснову, што, «парушаючы канстытуцыйныя вымогі аб тым, што ідэалогія палітычных партыяў, рэлігійных або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных групаў не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для грамадзянаў Новікаў насаджаў ідэалогію праваслаўнай канфесіі ў якасці адзінай для ўсяго народа Беларусі». Пры гэтым «тэлеглядачам давалася зразумець, што насаджэнне праваслаўя і пераслед вернікаў іншых плыняў – афіцыйная палітыка ўладаў».

**Алесь КАТОВІЧ**

# Суды вучацца гуманнасці

Як паведамілі на прэс-канферэнцыі старшыня Вярхоўнага Суда Валянцін Сукала, суды актыўна прымяняюць уступіўшы ў сілу з 1 студзеня 2001 года новы Крымінальны кодэкс, а новыя больш гуманныя пакаранні, прадугледжаныя ім, «часам нават занадта актыўна».

Гэта прывяло да таго, што ў першым квартале 2001 года да кароткачасовага арышту (на тэрмін да 6 месяцаў) была прыгаворана амаль тысяча чалавек. Гэта новая мера пакарання, і таму адпаведныя структуры МУС да яе аказаліся негатовыя: рэальна яны могуць прыняць толькі 1,5 тысячы чалавек на год. Іх павінны ўтрымліваць у арыштанцкіх дамах, дзе ўмовы больш аблегчаныя, чымсьці ў следчых ізалятарах ці месцах пазбаўлення волі. На сённяшні час такі арыштанцкі дом ёсць толькі ў Жодзіне, таму стаіць пытанне аб фінансаванні будаўніцтва іншых.

Усяго судамі разгледжана 3,5 тысячы справаў, на якія распаўсюджваецца адваротная сіла закона – калі новы закон змякчае ці адмяняе пакаранне. 1.261 чалавек вызваленыя з-за кратаў, яшчэ 506 зменшаны тэрмін пакарання. Між тым, паводле В.Сукалы, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Андрэй Клімаў пакуль застанецца за кратамі, бо адміністрацыя калоніі, дзе ён зняволены, не збіраецца ініцыяваць да суда перагляд яго справы, якая «не падпадае пад дзеянне новага кодэкса».

Найбольш цяжкасцяў у суддзяў, пракурораў і адвакатаў выклікае правядзенне спаборнага працэсу. Па-першае, не хапае пракурораў (раней з іх удзелам разглядаліся толькі 40% справаў, зараз 95%, а іх колькасць засталася той самай). Падругое, якасць правядзення спаборнага працэсу, як адзначыў старшыня Вярхоўнага Суда, недастатковая. Прыкладам, суддзі па старой памяці працягваюць у яго ўмешвацца.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Дзень смутку па стратах

18 красавіка – афіцыйны Дзень аховы помнікаў гісторыі і культуры. Можа, у другіх краінах у гэты дзень радуюцца, а ў нашай дасведчаныя людзі смуткуюць.

Немагчыма назваць хоць адзін дагледжаны да ладу рэстаўраваны помнік культуры. Наваградак больш страціў, чым займеў, пасля паспешлівай рэканструкцыі цэнтра. Верхні горад у Мінску ўжо стаў хрэстаматыйным прыкладам непаважных пераробак. У Брэсце ад гістарычнага горада засталася пабудова порада – Бернардзінскі манастыр XVII-XVIII стагоддзяў. Па-ранейшаму руйнуюцца стыхіямі Свята-Троіцкі касцёл у Волчыне, палац Сапегаў – у Ружанах, манастыр картэзіянцаў – у Бярозе, сотні старадаўніх сядзібных палацаў – усе вядомыя гарадзішчы, старажытныя курганы.

**Аліна ВОЛЬСКАЯ**

АКЦЫІ

## 5 траўня — суботнік

Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову аб правядзенні 5 траўня рэспубліканскага суботніка. Заробак за працу ў гэты дзень пералічваецца на спецыяльны рахунак абласных і Мінскага выканкамаў. Плануецца, што сродкі пойдуць на будаўніцтва і рэканструкцыю ўстановаў аховы здароўя, істотнай часткай у забруджаных радыяцыяй раёнах.

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ГАДАВІНА




Фота IREX/ProMedia

На 5-ым Міжнародным кангрэсе «Свет пасля Чарнобыля», які праходзіў гэтымі днямі ў Мінску і быў арганізаваны дабрачынным фондам «Дзецям Чарнобыля», Міжнароднай асацыяцыяй гуманітарнага супрацоўніцтва, Федэральнай асацыяцыяй Чарнобыльскіх ініцыятываў Германіі, пры падтрымкі ініцыятываў Еўропы, Амерыкі, СНД. Аб праблематыцы кангрэса гл. на стар. 7

ВЕРТЫКАЛЬ

# Народны сход без народа

80 рабочых магілёўскага прадпрыемства ААТ «Будтрэст № 12» звярнуліся ў пракуратуру Цэнтральнага раёна Магілёва са скаргай на парушэнні, якія мелі месца пры правядзенні сходаў у працоўных калектывах па вылучэнні кандыдатаў на Усебеларускі народны сход, які пройдзе ў Мінску 18 траўня.

Ад Магілёўскай вобласці на гэты ініцыіруемы ўладамі форум павінна быць накіравана 390 прадстаўнікоў працоўных калектываў, у тым ліку 105 – ад абласнога цэнтра. У працоўных калектывах Магілёва завяршылася вылучэнне ўпаўнаважаных прадстаўнікоў на гарадскі сход, дзе будуць вылучаныя дэлегаты на Усебеларускі народны сход. Гарадскія ўлады запэўніваюць, што гэтыя сходы прайшлі без парушэнняў.

Гэтыя сцвярджэнні катэгарычна абвяргаюць рабочыя магілёўскага будтрэста № 12. У выніку канферэнцыі працоўнага калектыву, якая прайшла на іх прадпрыемстве, у лік упаўнаважаных на гарадскі сход не трапіў ніводзін рабочы, хаця менавіта гэтай катэгорыі работнікаў ёсць што заявіць уладам на маючым адбыцца форуме. Аўтары скаргі ў пракуратуру прапаноўваюць ануляваць вынікі канферэнцыі.

**Наталля КУЛАГІНА**

СОЦЫУМ

# Савецкі пашпарт будзе скасаваны

Дзеянне пашпарта грамадзяніна СССР узору 1974 года будзе абмежаванае. Ужо сёлета МУС наважана падрыхтаваць праект адпаведнага ўрадавага рашэння.

Што тычыцца тэрміну заканчэння дзеяння пашпарта грамадзяніна СССР, то ён яшчэ канчаткова не вызначаны. Гэта можа быць або 1 студзеня 2003 года, або 1 студзеня 2004 года, або 1 студзеня 2005 года — усё будзе залежаць ад сітуацыі з выдачай нацыянальных пашпартоў узору 1996 года. Дзеянне замежнага пашпарта грамадзяніна СССР заканчваецца 31 снежня 2001 года.

Наогул у краіне на сёння выдадзена больш за 5,5 мільёнаў нацыянальных пашпартоў, гэта значыць амаль 54% насельніцтва ўжо дакументаваныя новым пашпартам. У Мінску новы дакумент маюць ужо 60% жыхароў. Гэтага дакумента зараз не маюць у асноўным вяскоўцы і людзі сталага ўзросту — пасля 65-70 гадоў.

Цяпер на руках у грамадзянаў застаюцца яшчэ і пашпарты з гербам «Пагоня», якіх было выдадзена каля 180 тысяч і ўсе — жыхарам беларускай сталіцы, паколькі з яе пачыналася пашпартызацыя. Гэтыя пашпарты не афармляюцца для выезду за мяжу. Што тычыцца тэрміну іх дзеяння, то ён спецыяльна не абмяжоўваецца, пашпарты будуць сапраўдныя да ўказанай у іх даты.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Траціна гродзенскіх заводаў — стратныя

Амаль палова прадпрыемстваў Гродна зменшылі аб'ёмы выпуску прадукцыі ў першым квартале сёлета. Ледзьве не на 7% не выкананы паказчык — па росту аб'ёмаў вытворчасці.

Каля 30% заводаў горада — увогуле стратныя. Тым не менш, усіх іх улады прымушаюць выпускаць больш тавараў. Нават калі іх не атрымліваецца прадаць. На некаторых стратных прадпрыемствах горада над Нёманам рабочым плацяць толькі па 20 тысяч рублёў у месяц.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ПЕРФОРМАНС

# Перамог «кандыдат аб'яднаных дэмакратаў»

Чарговую перформанскую акцыю зладзілі 18 красавіка ў Мінску сябры Маладога Фронту. Гэтым разам нагодай стаў Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцінаў.

Маладафронтаўцы правялі ў цэнтры сталіцы тэатралізаваныя выбары прэзідэнта. Мінакі каля сотні чалавек выбіралі ягосярод кандыдатаў-постацяў мінскіх помнікаў. Галасаваць можна было за Леніна, Дзяржынскага, Казея, Я.Коласа, Купалу, Пушкіна, Багдановіча,названа кандыдатам ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў, балатаваўся нават танк, што стаіць каля Дома афіцэраў. Перамог Багдановіч, які набраў каля 60% галасоў.

**Алесь КАТОВІЧ**

ГАСПАДАРКА

# Палохае яшчур, а косіць голад

На трэцім месяцы, як ў Еўропе лютуе эпідэмія яшчуру, у памежнай Брэстчыне толькі на 9,3% жывёлагадоўчых фермах выкананы рэкамендацыі па прафілактычнай засцярозе. У асноўным гэта вялікія комплексы і птушкафабрыкі. Астатнія заядае хваравітая цякучка і памор жывёлы ад голаду.

Паводле дадзеных з брэсцкага аблсельгасхарчу, у ганцавіцкіх калгасах імя Калініна і «Адраджэнне» прыплод маладняку не кампенсуе колькасць ранейшага пагалоўя: 60 цялятаў паздыхалі ў першай гаспадарцы, 55 – у другой. Іх кармілі сенажом павышанай вільготнасці і зерневай пацярухай. У калгасе «Перамога» Жабінкаўскага раёна з-за адсутнасці на месяцы медыкаментаў страцілі 17 жывёлаў адразу. У Маларыцкім, Жабінкаўскім, Камянецкім раёнах ветэрынарная служба ўкамплектаваная ад 40 да 64% у штатным раскладзе. Маштабы гібелі жахлівыя: у вобласці з пачатку года недалічыліся каля 5.000 галоў буйной рагатай жывёлы і 14.000 свіней.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

# «Зубр» завёўся ў Барысаве

Менавіта пад такім лозунгам стараюцца праводзіць усе свае акцыі барысаўскія «зубры». Напрыклад, у «дзень смеху» 1 красавіка хлопцы і дзяўчаты з «Зубра» збіралі па рынках горада ахвяраванні на «пенсію прэзідэнту». Людзі кідалі хто «пяцёрку», хто «дзесятку».

Пакрысу «зубры» назбіралі за дзень досыць значную суму, якую пасля выплаты ўсіх падаткаў збіраюцца пералічыць на нейкі рахунак ці, калі не прымуць, аддаць потым у «музей ППРБ».

На самым пачатку станаўлення «Зубра» ў Барысаве многія гараджане моцна абураліся тымі графіці, якімі былі распісаныя сцены будынкаў. «Зубры» ўлічылі справядлівую крытыку барысаўцаў. Зараз іх надпісы можна ўбачыць толькі на неўладкаваных будынках.

Праўда, маецца за імі і невялічкі грашок — паставілі свой «аўтограф» на даволі добра ўладкаваным будынку гарвыканкама. Але гэты надпіс быў імгненна замазаны і парадаваў вока барысаўцаў толькі на працягу некалькіх хвілінаў.

Каб падкрэсліць сацыяльную накіраванасць свайго руху, «зубры» палічылі збор подпісаў за паляпшэнне руху гарадскога транспарту. На дадзены момант ужо сабрана больш за 1,5 тысячы подпісаў узрушаных гэтай вельмі балючай для Барысава праблемай гараджанаў. Па заканчэнні акцыі мяркуецца перадаць гэтыя спісы ў гарвыканкам.

Людзі ахвотна раздаюць свае «аўтографы» маладым хлопцам і дзяўчатам за значком «Зубр» на грудзях. Калі нехта пытаецца: «А, што гэта ты за ЗУБР такі?» — кожны з іх мае за гонар напаўжартаўліва адказаць: «Я за саюз Украіны, Беларусі, Расіі, але без Лукашэнкі, Кучмы і Пуціна».

**Зміцер БУЛАЙ**

РЭГЛАМЕНТЫ

# Указ аб нагрудных знаках

Нарэшце А.Лукашэнка вырашыў навесці парадак у сферы нагрудных знакаў, якія ўстанаўліваюць дзяржаўныя арганізацыі і грамадскія аб'яднанні. Адпаведны ўказ рэгламентуе заснаванне нагрудных знакаў, напрыклад «Лепшы кіроўца» ці «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны».

Згодна з ім, дзяржустановам і грамадскім аб'яднанням, якія зацвердзілі палажэнне аб нагрудных знаках і эталонныя ўзоры іх да іх без рэгістрацыі, прапануецца да 1 ліпеня бягучага года «прыняць захады для правядзення ва ўстаноўленым парадку геральдычнай экспертызы, заснавання і дзяржаўнай рэгістрацыі адпаведных нагрудных знакаў».

Дакумент падкрэслівае, што для заснавання нагрудных знакаў праекты палажэння аб іх і эскізы павінны прайсці абавязковую геральдычную экспертызу ў Ваенна-геральдычнай камісіі пры Савеце бяспекі Рэспублікі Беларусь. Эскіз нагруднага знака павінен адпавядаць патрабаванням, якія ўсталяваныя заканадаўствам. Эталонныя выявы знакаў утрымоўваюцца ў Дзяржаўным рэгістры нагрудных знакаў. Усе нагрудныя знакі, заснаваныя з парушэннямі рэгламентаваных указам патрабаванняў, лічацца несапраўднымі. Гэты ўказ, на думку яго стваральнікаў, узаконіць нашэнне знакаў узнагароджанымі асобамі.

Магчыма, цяпер ніхто не здолее незаконна насіць знак «Лепшы даяр раёна» ці «Актывіст Таварыства беларускай мовы».

**Іосіф ПАСТУХОВІЧ**

 



# Сакрат, ты не маеш рацыі...

## Адкрыты ліст старшыні ТБМ Сакрату Яновічу

2 красавіка НАША СВАБОДА перадрукавала з польскай Gazety wyborczaj артыкул «Рэзервацыя Беларусь» вядомага беларускага і польскага пісьменніка Сакрата Яновіча, які жыве на Беласточчыне. Аўтар падзяліўся з польскім чытачом сваімі даволі сумнымі назіраннямі з жыцця сённяшняй Беларусі. Сёння газета публікуе меркаванні адносна «Рэзервацыі «Беларусі» старшыні ТБМ Алега Трусава.


Фота Ул. ШЛАПАКА

Хацеў ці не хацеў сп. Яновіч, паказваючы польскаму чытачу, які амаль зусім не ведае сённяшнюю Беларусь, сваю звышарыгінальнасць, але ён, не аднойчы у сваёй публікацыі схлусіўшы, увёў шырокія колы польскай грамадскасці ў зман, так як робяць зараз беларускія тэле- і радыёжурналісты тыпу Н.Чайкі, А Зімоўскага і інш.

Таму лічу неабходным пракаментаваць некаторыя выказванні сп. Сакрата.

***«У верхнім эшалоне яе ўлады (Рэспублікі Беларусь. – А.Т.) амаль няма беларусаў, нават тых, найвярнейшых з верных». «Нічога падобнага не здаралася ў савецкія часы, да іншага безумоўна абавязваў нацыянальны знак».***

Пагартайце школьныя падручнікі, сп. Сакрат. Менавіта ў савецкія часы кіраваць Савецкай Беларусіяй прыслалі не беларусаў. Дастаткова толькі прачытаць прозвішчы Мяснікова (Мяснікяна), Кнорына (Кнорыньша), Панамарэнкі, Ігрунова ды іншых. Варта толькі сказаць, што ў 1924 годзе ў склад КПБ уваходзіла значна меней беларусаў, чым палова ад яе колькаснага складу. А любым кіраўніком заўжды быў камуніст. Пасля вайны большая частка ўсіх кіраўнікоў нават нязначных структураў у БССР была прысланая збоку, асабліва ў галіне навукі, культуры і эканомікі.

Зараз сітуацыя змянілася, і большасць кіраўнікоў раённага і абласнога ўзроўняў тутэйшая, мясцовай гадоўлі, і менавіта яна апора сённяшняга рэжыму. Дарэчы, у апошні час рускага міністра абароны сп. Чумакова змяніў беларус Мальцаў, а на месца татарына Латыпава , міністра замежных справаў, прыйшоў мясцовы Міхась Хвастоў. Але сітуацыя не змянілася.

Варта прыгадаць і польскі вопыт. Ад таго, што кіраўнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі ў маладосці лічыў сябе беларусам і добра ведаў беларускую мову, становішча беларусаў у Заходняй Беларусі пры яго панаванні не стала лепшым, хутчэй наадварот.

***«Рэч у тым, што беларускай нацыі ў еўрапейскім разуменні тут не існуе...».*** Аб гэтым хто толькі ні пісаў і ў XIX, і ў XX стст. Але ж пра тое, што ёсць беларуская нацыя, засведчыў яшчэ Францішак Багушэвіч, і спрачацца з ім могуць толькі неадукаваныя, неабачлівыя людзі.

І ці ведае сп. Яновіч, што ў сакавіку 1991 года на гарбачоўскім рэферэндуме за незалежнасць Беларусі прагаласавала больш за 1 мільён чалавек?

Дарэчы, галоўны аргумент сп. Яновіча, што яго быццам бы не зразумелі па-беларуску ў менскай краме, даволі спрэчны, бо размаўляе ён, па-першае, з моцным польскім акцэнтам, а па-другое, даволі невыразна. Магчыма, і ў польскіх крамах яго не адразу разумеюць, але ці варта з гэтага рабіць драму?

Нядаўна я вырашыў зрабіць сацыялагічны эксперымент і, абышоўшы ўсе паверхі універмага, звярнуўся з самымі рознымі пытаннямі як мінімум да 20 прадаўцоў. Пры гэтым ужываў словы накшталт «бурштын», «шкарпэткі» ці «гарбата». Толькі адна маладая дзяўчына двойчы перапытала мяне. Чалавек восем адказалі на добрай беларускай мове, астатнія на «трасянцы», але ўсе ставіліся да маёй мовы прыязна.

Таму заяўляць, што **«ненавідзяць у Мінску беларускую мову – і ўсё. Бялеюць ад шаленства»**, проста «бздура».

Спадар Яновіч дагаварыўся да таго, што нават тысяча прафесараў-патрыётаў дома з жонкамі ці каханымі не размаўляюць па-беларуску. Можа ў яго Крынках так яно і ёсць, а вось у Мінску, дома па-беларуску размаўляюць дзесяткі тысяч людзей.

Хацеў прыгадаць сп. Яновічу вынікі апошняга перапісу 1999 года. 86% усіх грамадзянаў Беларусі назвалі роднай мовай беларускую, 24% — рускую і пры гэтым 3.700 тысяч людзей (з іх болей чым 500 тысячаў **небеларусаў**) пацвердзілі, што дома штодня гавораць па-беларуску. А гэта насельніцтва ўсёй Літвы, і з гэтым варта лічыцца.

***«...канчаткова ўпэўніўся, што не існуе школы з беларускай мовай навучання. Так, для віду тут і там ёсць пара сельскіх школаў, названых беларускімі, але ў іх ніхто не заікнецца па-беларуску».***

Так, у гарадах беларускіх школ засталося мала, але яны ёсць, кожны год змагаюцца за сваё існаванне, і пісаць, што іх няма, – гэта значыць свядома здрадзіць беларускай справе. Зараз у Беларусі ў гарадах дзейнічае 31 беларуская школа. З іх 5 у Менску, і ў тым ліку Нацыянальны ліцэй, які два гады хацелі зачыніць, але не здолелі (бо вучні, бацькі і настаўнікі не далі гэта зрабіць). Зараз на беларускай мове займаецца каля 20% дзяцей, прычым самы беларускамоўны горад – гэта Ліда, дзе колькасць беларускамоўных вучняў сягае да 40 %.

***«На сярэдняй ступені ніколі не вучылі па-беларуску. Не кажучы ўжо пра школу вышэйшую».*** Зноў няпраўда. У БССР у 20-х – першую палову 30-х гадоў большасць тэхнікумаў вучылася па-беларуску, і ў тым ліку па-беларуску шырока выкладалі і ў ВНУ. У пачатку 90-х гадоў на беларускую мову перайшлі шмат якія выкладчыкі ВНУ. Толькі ў Гародні іх было каля сотні. Год таму ТБМ дабілася ад міністэрства адукацыі таго, што цяпер у адпаведнасці з новымі правіламі зноў адкрываюцца дзве плыні прыёму – беларускамоўная і рускамоўная. На беларускай мове найбольш выкладчыкаў зараз выкладае ў Беларускім універсітэце культуры, Педагагічным універсітэце, Акадэміі мастацтваў, па-беларуску працуюць два педагагічныя каледжы ў Мінску.

Зараз ТБМ і ТБШ сабралі каля 45 тысяч подпісаў грамадзянаў Беларусі за адкрыццё Беларускага Нацыянальнага універсітэта з навучаннем у Менску і з філіяламі ў буйных беларускіх гарадах. Мы не сумняваемся, што новы прэзідэнт Беларусі мусіць лічыцца з грамадскай думкай, і БНУ будзе адчынены.

***«Яе колькасць (апазіцыі. — А.Т.) першапачаткова не перабольшвала дзвюх тысяч чалавек, як правіла мінскіх інтэлігентаў, што прыкладна адпавядала накладу выключна беларускамоўнай прэсы».***

Зноў няпраўда. Толькі ў партыі БНФ і КХП БНФ разам зараз каля 5 тысяч чалавек, я ўжо не кажу пра АГП, БСДГ, БСДП (НГ) і іншыя партыі і рухі. Шматлікія няўрадавыя арганізацыі (трэці сектар) налічвае некалькі дзесяткаў тысяч сябраў. (Зараз толькі ТБМ мае каля 9 тысячаў сябраў.)

Цяпер пра наклады беларускамоўных газет. Дзяржаўныя газеты «Звязда», «Культура», «Голас Радзімы», «ЛіМ», «Раніца» і «Чырвоная змена» маюць наклады каля 85.000 асобнікаў. Ёсць і недзяржаўная вольная прэса. Да прыкладу, «Наша Ніва», «Наша Слова», «Пагоня» і іншыя. Агульны наклад болей за 10 тысяч. Толькі наклад «Нашага Слова» – 4.600 асобнікаў, з іх падпіска каля 3.500. Гэтыя прыклады можна было б доўжыць, але навошта. Калі вядомы ў свеце чалавек наўмысна ці ненаўмысна гаворыць няпраўду, гаворыць няпраўду, гэта крыўдна, бо яе далёка чуваць. Добра, што ў няпраўды заўжды кароткія ногі.

**Алег ТРУСАЎ**

## Выдавецтвы марнеюць, але не здаюцца

Былі часы, калі беларускія выдавецтвы выпускалі па 160-180 кніг на год. У планах на 2001 год дзяржаўнага выдавецтва «Мастацкая літаратура» значыцца 55 назваў, а ў выдавецтва «Беларускі кнігазбор» – 100. І наклады ўжо не тыя – 2,5-5 тысяч экземпляраў, раней было па 10-15 тысячаў.

Спецыялізуюцца гэтыя выдавецтвы на выданні беларускамоўнай літаратуры, але паколькі дзяржвыдавецтвы фінансуюцца з бюджэту толькі на 50-60%, то ім даводзіцца зарабляць самастойна выданнем камерцыйнай попытавай літаратуры. Дарэчы, любы аўтар можа выдаць кнігу і за ўласныя сродкі. У выдавецтве «Беларускі кнігазбор» яму гэта абыдзецца танней (30-50 долараў), чымсьці ў «Мастацкай літаратуры», дзе давядзецца плаціць удвая больш. Што да ганарараў за выданне кнігі, то яны ў пісьменнікаў не зайздросныя –у грашовым вымярэнні гэта ад 300 да 1.000 долараў.

У 2000 годзе «Беларускі кнігазбор» выдаў 5 кніг беларускіх аўтараў, а «Мастацкая літаратура» – 9 кніг. З вёсак асноўныя замовы на падручнікі і мапы, а на ўсе бібліятэкі адной вобласці заказваецца толькі па 10 кніг (усяго па краіне 35 тысячаў бібліятэк). Нярэдка не набіраецца замоваў і на наклад у 1 тысячу экземпляраў, асабліва на творы маладых пісьменнікаў. Вялікі попыт захоўваецца толькі на такіх класікаў, як Караткевіч, Мележ ці Шамякін. На думку паэта Міколы Мятліцкага, кнігавыдавецкай галіне не хапае дзяржаўных заказаў на беларускую літаратуру і яе прапаганду сярод насельніцтва. Да таго, існуе больш за 500 прыватных выдавецтваў, якія завалілі кніжны рынак краіны камерцыйнай, пераважна рускамоўнай літаратурай.

У такіх умовах, тым не менш, з'яўляюцца новыя беларускамоўныя выдавецкія серыі. «Мастацкая літаратура» з 1999 года выпускае серыі кніг «Беларуская паэзія 20 стагоддзя» і «Беларуская проза 20 стагоддзя», куды ўваходзяць творы сучасных пісьменнікаў, якія атрымалі дзяржаўныя прэміі ці прэміі ад Саюза пісьменнікаў, а «Беларускі кнігазбор» з 1995 года выдае аднайменную серыю кніг, якая аб'ядноўвае творы ад старажытнасці да сучаснасці. Што да сёлетніх планаў гэтага выдавецтва, то ў траўні плануецца выдаць «Беларусы» Яўхіма Карскага, які не перавыдаваўся ўжо больш за 85 гадоў.

Апрача таго, каб папоўніць спіс беларускіх літаратараў 19 стагоддзя ў школьных падручніках, «Беларускі кнігазбор» плануе заняцца выданнем перакладных твораў тых беларускіх пісьменнікаў, якія пісалі ў той час па-польску, а вось рускамоўныя творы П.Шпілеўскага і Ф.Булгарына будуць выдадзеныя ў арыгінале.

А з нагоды 15-годдзя Чарнобыльскай катастрофы будзе выдадзеная другая кніга зборніка «Прайсці праз зону», у якую ўвойдуць уражанні ад вандровак у Чарнобыльскую зону 96 пісьменнікаў, якія там пабывалі.

**Алена ЛАБАНАВА**

РЭПЛІКА

## Кто лает в розовом тумане?



Одна белорусская и очень деловая газета любит накануне всех серьезных уличных акций оппозиции пугать своих читателей ужасами возможной полицейской расправы над мирными людьми.

Едва лишь граждане приступят к организации демонстрации протеста в соответствии с принципами свободы личности, заложенными в Конституции, едва лишь тайные осведомители доложат начальству о возможном аншлаге во время шествия, едва лишь правители успеют испугаться очередного проявления народного протеста, как эта газета уже прозрачно намекает на возможную жестокую, беззаконную расправу белорусского спецназа над белорусскими гражданами. С применением самых последних разработок в области полицейщины. Например, что отравленых радиацией людей начнут обдавать импортным «розовым туманом», от которого люди...пардон...писаются. Или, что могут быть приготовлены к употреблению на улицах Минска поливальные машины с нечистотами. И не беда, что сведения потом никак не подтверждаются. Зато честно предупредили. Дескать, зачем тебе, товарищ, выходить на улицу? Зачем тебе свобода и демократия? Зачем тебе отстаивать свои права? Сиди дома, а не то обольют не только в переносном, но и в буквальном смысле.

Вот и сейчас, накануне традиционного Чернобыльского шествия, эта газета в соответствии со своими традициями сообщает: спецназ тренируется на аэродроме с водометами против людей с бел-чырвона-белыми флагами. И выглядит это небывало грозно, как штурм Измаила. Устрашись, свободный гражданин! Спрячь подальше свой родной флаг. Внимай праву кирзового сапога! А если и это тебя не испугает, то учти, что «...по аэродрому бегали собаки. Злые». И хотя неизвестно, чьи это собаки, будут ли они людей кусать и зачем они там бегали, но важно сигнал подать. Уж такая это газета. Знает, как туман сделать розовым.

**Тамаш ПАЛЬМАЧИНСКИЙ**

# Чарнобыль, на жаль, толькі пачынаецца

Адной з тэмаў прайшоўшага днямі міжнароднага кангрэса «Свет пасля Чарнобыля» была роля дзяржавы ў працэсе ліквідацыі мінімізацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Старшыня дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы прамаўляў на ім, што «ўсе мы закладнікі гэтай катастрофы» і што «мільёны людзей застаюцца пад пагрозай здароўя», бо «эканамічны заняпад, псіхалагічная стомленасць і палітычная сітуацыя ў краіне не спрыяе вырашэнню чарнобыльскіх праблемаў». Выступы на кангрэсе спецыялістаў, што займаюцца чарнобыльскім бедствам, мусілі паказаць сярод іншага і «неэфектыўнасць тых захадаў, якія прадпрымаліся і прадпрымаюцца з боку дзяржавы».

Дастаткова хоць бы сказаць, што выдаткі з бюджэту на Чарнобыльскую праграму скараціліся з 22% у 1991 годзе да 6% — у апошнія гады. Ад надзвычайнага чарнобыльскага падатку летась на гэта ішло не ўсё, а толькі 87%, у 2001 годзе і таго меней – 80%. Амаль што скасаваны Закон аб сацыяльнай абароне тых, хто жыве на забруджанай радыяцыяй тэрыторыі. Са словаў члена-карэспандэнта Акадэміі навук Івана Нікітчанкі, «чарнобыльскіх» выплатаў, напрыклад, гэтым людзям раней хапала дзесьці на 15 кілаграмаў варанай каўбасы, а зараз хапае хіба што на бохан хлеба.

У Беларусі дзейнічаюць неапраўдана завышаныя нормы ўтрымання радыяцыі ў харчах: у малацэ – 111 бюкерэляў на кілаграм, у свініне – 370. Хоць у той жа Расіі яны ўдвая меней, а акадэмік Андрэй Сахараў у свой час заяўляў, што аніякіх радыяцыйных парогаў наогул быць не павінна. Скарачаецца сетка пунктаў радыяцыйнага кантролю. Калі дзесяць гадоў таму існавала 750 спецыяльных лабараторыяў, то цяпер іх засталося менш 200.

Такія тэндэнцыі былі б уцямныя, калі б сітуацыя паляпшалася, але ўсё якраз наадварот. Паводле прыведзеных Іванам Нікітчанкам звестак, у 1993 годзе ў Гомельскай вобласці з праверaных прадуктаў мясцовай вытворчасці забруджанымі і непрыдатнымі да ўжывання аказаліся 12,7%, пазалетась гэтая лічба раўнялася 16,4%. Аналагічныя паказчыкі па Брэстчыне – 15% і 22%. Але ж гэта толькі правераная выкрытая нездаровая ежа.

Патрапіўшыя ў арганізм радыенукліды разбураюць імунную сістэму і вядуць да дачаснай смерці. Асабліва гэта тычыцца жыхароў «чарнобыльскай зоны». Прыкладам, у Кармянскім раёне 55,1% насельніцтва – хранічна хворыя людзі, у Буда-Кашалёўскім – 60,4%, у Веткаўскім – 60,6%. Калі раней у «чарнобыльскай зоне» да выбуху на атамнай станцыі ў 1986 годзе 85% дзяцей былі здаровымі, то цяпер гэты паказчык стаў блізу 12%. Скрайнім парогам бяспекі лічыцца наяўнасць у арганізме дзіцяці 50 бюкерэляў на кілаграм вагі. Тым часам у малога жыхарства шматлікіх «чарнобыльскіх» вёсак гэты паказчык сягае 400 бюкерэляў, у дзетак з нешчаслівых і шматдзетных сем'яў – 2.000 бюкерэляў, а ў Нараўлянскім раёне — нават 7.000 бюкерэляў на кілаграм вагі. Усяго на забруджанай радыяцыяй тэрыторыі краіны змушаныя жыць зараз 1,7 мільёна чалавек. Прычым 140 тысячаў жывуць на землях з 15 кюры на кіламетр, між тым ва Украіне з адпаведных па небяспецы тэрыторыяў насельніцтва даўно выселілі.

У тым ліку пад радыяцыйным негатыўным уздзеяннем у Беларусі штогод павялічваюцца амплітуды смяротнасці і нараджальнасці нацыі. Калі ў 1993 годзе беларусаў паменела на 14 тысячаў чалавек, то ў 2000 годзе – ужо на 58 тысячаў. Прычым, паводле песімістычнага прагнозу Івана Нікітчанкі, на жаль, «усё толькі пачынаецца». Асноўны ўдар Чарнобыль нанясе па дзецях і ўнуках сённяшніх пакаленняў. Урачы радыяцыйнай медыцыны называюць гэта аддаленымі наступствамі. Спецыялісты даўно падлічылі, што пры захаванні цяперашніх тэмпаў дэградацыі здароўя нацыі да пачатку наступнага стагоддзя не застанецца ніводнага беларуса.

**Кірэй МАНУЙЛА**

 

АДУКАЦЫЯ

## Гамлету не хватило оптимизма

Южноафриканская образовательная комиссия рекомендовала убрать из учебной программы для юношества трагедию Шекспира «Гамлет» и широкоизвестный роман Джорджа Оруэлла «1984» как *политически некорректные*. В докладе преподавательской комиссии «Гамлет» называется «*европоцентричным и недостаточно оптимистичным*», а «Король Лир» расценивается как «*не вызывающий интереса читателя, полный жестокости и безысходности, а его интрига смешна и неправдоподобна*». Роман-антиутопия «1984» южноафриканские эксперты сочли содержащим «*элемент подрывного бунта против государства*». Комиссия должна была выяснить, насколько рассматриваемые ей книги соответствуют понятиям, которые содержатся в конституции ЮАР. Кроме того, в расчет принимались такие литературоведческие критерии, как стиль, интрига и доступность языка. Шекспир на этом экзамене гуманитариев ЮАР с треском пролетел. Правда, решения комиссии носят рекомендательный характер, а окончательный вердикт по поводу исключения упомянутых произведений из программы обучения школьников примет министерство образования.

СПОРТ

## Калі ж вышэй за восьмае?

Нацыянальная зборная Беларусі па хакеі з шайбай працягвае падрыхтоўку да чэмпіянату свету, які стартуе праз восем дзён у Германіі. Да сваёй першай афіцыйнай гульні ў будучую суботу супраць мінулагодніх пераможцаў – чэхаў – наша каманда запланавала правесці шэсць таварыскіх сустрэчаў, каб вызначыць свой склад і падрыхтавацца як мага лепей. Тыдзень таму падапечныя галоўнага трэнера Анатоля Варывончыка даволі лёгка двойчы перайгралі дома расійскі клуб «Тарпеда» з Ніжняга Ноўгарада, пазаўчора ў аўстрыйскім горадзе Лінцы былі мацней за зборную гэтай краіны – 3:1. Учора ўвечары яны правялі і паўторны матч з аўстрыйцамі. Вынік яго нам пакуль не вядомы, але можна і тут спадзявацца на перамогу. За ўвесь час «адносінаў» паміж дзвюма зборнымі – паміж імі прайшло сем сустрэчаў (без уліку ўчарашняй) – беларускія спартсмены толькі аднойчы завершылі свой паядынак унічыю, астатнія выйгралі.



І яшчэ праз некалькі дзён наша дружына правядзе дзве спарынг-гульні супраць хакеістаў Латвіі ў Рызе.

Кандыдатаў на паездку ў Германію зараз за шмат, каля трыццаці чалавек (як вядома, у заявачны спіс трэба ўнесці толькі 22 спартсмены), што, з аднаго боку, і добра, ёсць з каго выбіраць, з другога – не зусім: за тыдзень да спаборніцтваў, здаецца, ёсць праблемы з вызначэннем амаль цэлых пяцёрак. Праўда, можна зразумець Варывончыка, які на гэты час не мае ўсіх кандыдатаў каля сябе. Толькі два дні таму вярнуўся з Амерыкі абаронца энхэлаўскага «Анахайму» Руслан Салей, які выступіць за зборную, але ў Аўстрыю не паехаў. Да таго ж з ім здарылася і нейкая недарэчнасць. Калі мяняў самалёт у Франкфурце, дык страціў свой багаж – клюшкі, спартыўную форму і асабістыя рэчы. Хутчэй за ўсё прапажа знойдзецца, але панервавацца Руслану, відавочна, прыйдзецца. Да таго ж амаль палову сезона ў НХЛ Салей прапусціў з-за траўмы, і яму гульнявая практыка зараз вельмі патрэбная. А ў чым трэніравацца зараз?

Кожны дзень ловіць навіны з Амерыкі А.Варывончык, ды і ўсе прыхільнікі нашай зборнай, аб сустрэчах плэй-оф паміж камандамі «Філадэльфіі» і «Бафала». За апошнюю з іх гуляе беларускі нападаючы Уладзімір Цыплакоў. Увогуле, прагназавалася даволі лёгкая перамога яго сапернікаў, але пасля чатырох сустрэчаў наперадзе – 3:1 – «Клінкі» з Бафала. Учора ўначы ў Філадэльфіі прайшоў пяты матч серыі. Можа стацца, што выйграе каманда Цыплакова і датэрмінова трапіць у наступны этап (у плэй-оф гульні працягваюцца да чатырох перамогаў аднаго з калектываў). У другім выпадку лік некалькі зраўняецца, будзе 3:2, але супрацьстаянне працягнецца.

Як усё ў выніку адбудзецца, невядома нікому, але, нават пры лепшай для нас раскладцы (калі «Бафала» атрымае паразу ва ўсёй серыі), беларускі цэнтрфорфард наўрад ці зможа папасці на першыя паядынкі ў Германіі.

Хаця Уладзімір не ўвесь час выходзіць на пляцоўку ў складзе сваёй каманды, ягоны вопыт для нас будзе вельмі важкі ў Германіі.

На працягу гадоў нашы «любімчыкі» займаюць восьмае–дзевятае, дзевятае–восьмае месцы – вось такі дыяпазон іх намаганняў. І на гэты раз усе сходзяцца на думцы, што зноў восьмае месца задаволіла б усіх. Шчыра кажучы, шанцы на яго ёсць. Амаль гарантаваны выхад з папярэдняй групы ў фінальную частку і прынясе гэты такі жаданы восьмы радок, трэба толькі стаць на папярэднім этапе другімі.

Мы зноў увойдзем у адну і тую ж раку які год запар. І марнаваць на гэта зноў велізарныя сродкі? Можа хопіць? Прыкладна, толькі ў якасці прэміі долараў гэтак 400.000 атрымаюць хакеісты пасля чэмпіянату – за ўсё тое ж восьмае месца! Выходзіць, што мы багацей за сапраўды хакейную Канаду?

З кожным сезонам мы зусім не прыбаўляем у класе. Наадварот, адборачны турнір да Алімпіяды ў Солт-Лэйк-Сіці, які прайшоў у Нарвегіі, паказвае, што нашы «старыя» хакеісты паціхоньку здаюць свае пазіцыі, а добрай змены ім не відаць.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Пьянящий запах миллиардов

## *Впридачу к царь-пушке Россия обзавелась царь-свалкой радиационных отходов*

*В среду народные избранники в Госдуме России приняли поправки к закону, разрешающие ввоз отработанного (облученного) ядерного топлива (ОЯТ) из стран дальнего зарубежья.*

### Аргументы сторонников царь-свалки

Самый главный аргумент — плата за импорт ядерных отходов, их хранение и переработку даст россиянам **до 21 миллиарда долларов за 10 лет.**

Бояться не надо. ОЯТ активно перерабатывалось еще в СССР с 1977 года. Сейчас мощности по переработке ОЯТ в России загружены только на 25%. Место России на этом рынке может занять какое-нибудь другое государство.

На рынке хранения ОЯТ уже работают Франция, Великобритания и Япония. Ряд стран, не имеющих необходимых технологий, направляют ОЯТ на перерабатывающие предприятия за рубеж. В России на заводе ПО «Маяк» (Челябинская область), кроме топлива с подводных лодок и отечественных АЭС, перерабатывается ОЯТ Украины, Болгарии, Словакии, Финляндии и Венгрии — но только от реакторов с тех АЭС, которые построены при участии России. **Планируется ввозить ядерные отходы из Тайваня, Китая, Ирана**.

Отрабатывать полученные 20 миллиардов придется после истечения технологического периода сроком до 20 лет (за это время их радиоактивность упадет) примерно в 100 раз.

В мире уже накоплено 200 тысяч тонн ОЯТа. В ближайшее 20-летие его станет в два раза больше (из всех реакторов АЭС выгружается около 12 тысяч тонн ОЯТ в год). В России этот объем вырастет до 20 тысяч тонн. Таким образом, Россия завезет на каждую тонну своего облученного ядерного топлива тонну чужого.

Некоторые страны — Канада и Швеция — утвердили концепцию прямого захоронения ОЯТ. Другие хранят ОЯТ во временных хранилищах так называемого «сухого» типа. Именно так США хранят около 70 тысяч тонн отработанного ядерного топлива, которое можно захоронить только после 50 лет выдержки. В России используется технология хранения в заполненных водой бассейнах. Для этого уже разработаны и испытаны спецконтейнеры. Их цена составляет от 120 до 240 тысяч долларов. А в Германии контейнеры стоят 1 миллион долларов.



Российские контейнеры — самые лучшие в мире, они могут падать с высоты 2 тысяч метров и им ничего не будет, не говоря уже о железнодорожных перевозках и катастрофах.

Если механизм такого импорта заработает, начнут возрождаться другие отрасли: строительство, металлургия, появятся тысячи новых рабочих мест.

Есть официальные места, где уже были захоронены отходы, — например, возле Троице-Сергиевой лавры, радиоактивные отходы хранятся в Курчатовском институте, между Кремлем и Шереметьевом. Наиболее подходящее место — Красноярск, там есть подход по водным путям, по Енисею, и никогда во время перевозок еще не было инцидента.

### Аргументы противников царь-свалки

Активность минатома РФ по ввозу на хранение и переработку ОЯТ имеет главную цель — **создание и модернизацию ядерного оружия**. Иных денежных средств в бюджете страны нет и на ближайшую перспективу не намечается.

У России нет возможностей для переработки и хранения на своей территории отходов ядерного топлива. Мощности при переработке ОЯТ сконцентрированы в Озерске (ПО «Маяк»). Там перерабатываются отходы с реакторов ВВЭР-440, БН-600 и БН-350, а также отходы с исследовательских реакторов и с атомных ледоколов и подводных лодок. Ни о какой переработке отходов с РБМК-1000, ВВЭР-1000, ЭГП-6, АМБ-100, 200 (аналогичных многим на Западе) говорить не приходится.

Хранение 1 грамма выделенного плутония обходится в 5-6 долларов в год, тогда как общая денежная сумма, необходимая для хранения 1.000 тонн (собственного и ввозного) плутония, должна быть не менее 6 миллиардов в год. Кто даст такие деньги?

Ввоз и переработка 20 тысяч тонн ОЯТ приведет к образованию радиоактивных отходов **активностью более 9 миллиардов кюри (эквивалентно 180 чернобыльским выбросам).** К 2000 году от переработки ОЯТ в России уже скопилось в открытых хранилищах или закачано в геологические горизонты около 50 «чернобылей».

Порядка 14 европейских и азиатских государств выразили заинтересованность в услугах, которые хочет предоставлять Россия. Причем **Германия, Швейцария, Япония, Китай и Тайвань** готовы заключить контракты, как только законодательство вступит в силу.

«Гринпис» заявляет, что импорт использованного ядерного топлива приведет к ужасающим последствиям, обвиняя при этом российские власти, которые проигнорировали волю 2 с половиной миллионов своих граждан, подписавшихся под петицией о проведении референдума по этой проблеме. Центризбирком отклонил проведение референдума.

Все эти тысячи тонн отходов останутся в России возле Красноярска.

Приходится сомневаться, что эта деятельность с ОЯТ даст какую-то серьезную прибыль. Никто не видел ни одного реально разработанного плана. Проблема окончательного обращения с радиоактивными отходами не решена нигде в мире, ученые еще не придумали решения этой проблемы. Соответственно, никто не может посчитать реальную стоимость этого окончательного обращения.

Каждый год минатом России зарабатывает примерно 2 миллиарда долларов. Но кто видел, чтобы эти деньги применялись для очистки какой-либо территории.

Ни одна страна сегодня не ввозит иностранное отработанное ядерное топливо. В мире хватает стран, которые уже построили себе дешевые АЭС и стали достаточно богаты, чтобы перерабатывать опасные отходы не у себя, а где-нибудь подальше. Например, на ПО «Маяк» на Южном Урале.

Никто сегодня не знает, сколько захоронено этих отходов в шахтах? Сколько переработано, сколько в результате переработок образуется новых отходов? В каком состоянии сегодня находятся российские реакторы и отработанные АПЛ? Это знают избранные чиновники, которые манипулируют цифрами.

Чтобы экологи не возражали, предполагается треть всей суммы — 7,2 миллиарда — направить на «лечение» окружающей среды, которая может пострадать от радиоактивного заражения. Но нет гарантий, что полученные деньги поступят государству, а не в бездонные оффшорные компании.

Минатом, опьяненный запахом 20 миллиардов *USD*, лоббирует «сырой» проект.

Поскольку детали импорта радиоактивных отходов в Россию неизвестны, то неизвестно, пройдет ли через Беларусь как территорию «союзного» государства дорога для западного ОЯТ со всеми возможными последствиями?

**Адам ВОРОНА**

## Вселенский патриарх за поместную·церковь

*Константинопольский патриарх Варфоломей, который по древней церковной традиции считается первым среди равных глав православных церквей, объявил, что, по его мнению, Украинская церковь должна стать автономной, поместной, независимой от Константинополя и Москвы.*

Свою точку зрения Вселенский патриарх Варфоломей выразил в специальном письме депутатам Верховной Рады, которое поступило в парламент Украины. Письмо патриарха является собой ответ на письмо 100 украинских парламентариев, датированное январем, в котором эти депутаты призвали патриарха Варфоломея не приезжать на Украину с визитом. По мнению депутатов парламента, визит Вселенского патриарха *«посеет вражду на нашей земле»* и может привести к ухудшению религиозной ситуации на Украине. Иначе говоря, депутатское письмо отражает личные идеологические установки.

В минувшем году президент Леонид Кучма и спикер Верховной Рады Украины Иван Плющ пригласили Константинопольского патриарха посетить Украину. Именно это приглашение и дало повод для некорректного письма патриарху Варфоломею депутатов, в основном левой ориентации. Они считают, что президент и спикер хотят навязать украинским верующим точку зрения, противоположную позиции Патриарха всея Руси Алексия Второго. Как было принято в советские времена, верующие считаются стадом, которому можно «навязать».

Ранее Алексий Второй в послании к президенту Леониду Кучме писал: «Принятие украинских псевдоправославных группировок под юрисдикцию патриарха Варфоломея и Константинопольского патриархата спровоцирует масштабную конфронтацию и нестабильность на Украине». Невозможно понять, на каких основаниях московский патриарх называет «псевдоправославными группировками» такие многотысячные соборы верующих, как Украинская православная церковь Киевского патриархата и Украинская автокефальная православная церковь. Неужто только потому, что они не хотят подчиняться «навязанной» Московской патриархии? Почему-то в Московской патриархии забывают, что Киев принял крещение в тот век, когда на месте Москвы росли леса, и что с Киевом, а не с Москвой связана проповедь Апостола Андрея. С таким прошлым украинские православные вправе иметь автокефальную поместную церковь, а не слушать непочтительные слова из Москвы про псевдость своей веры.

**Ева АДАМОВИЧ**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1703 Нумар падпісаны ў друк 12/04/2001 (15:00) Наклад — 9.830